Зянон Пазьняк. Валеры Буйвал

# АБАРОНА КУРАПАТАЎ. НАРОДНЫ МЭМАРЫЯЛ




Варшава–Нью Ёрк–Вільня
2012 г.

**Змаганьне за Курапаты**
**і за абарону Курапатаў –**
**гэта, найперш, барацьба з КГБ,**
**з агентурай КГБ і „лубянскай” Расеяй,**
**са спадкаемцамі тых,**
**што тварылі генацыд.**
**Толькі ведаючы і разумеючы гэта,**
**можна зразумець сэнс**
**і зьмест падзеяў,**
**што разгортваюцца**
**вакол Курапатаў.**



(Фота Яўгена Шатохіна)

*1. Абаронцы Курапатаў – сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ, устанаўліваюць чарговы крыж. 2001 год. Зьлева направа: Валеры Буйвал, Алесь Чахольскі, Мікалай Крываротт, Сяргей Папкоў.*

# ПРАДМОВА

Гэтая кніга – не гісторыя Народнага Мэмарыялу Курапаты, і нават ня нарыс. Тут збор матэр’ялаў, часткова ўжо надрукаваных, а часткова напісаных аўтарамі адмыслова, з нагоды нядаўніх падзей, каб засьведчыць факты і праўду, і барацьбу за захаваньне памяці і магіл расстраляных людзей. Зьнішчыць магілы хочуць пасьлядоўнікі і нашчадкі тых, хто забіваў, ды людзі бяз памяці. Абараняюць – нашчадкі забітых, тыя, хто памятаюць і разумеюць. Такі вось двухсотгадовы расклад змаганьня з Усходам. Яно пэрманэнтнае і адбываецца ўсюды, дзе жыў і жыве беларус. І нават пасьля яго сьмерці яно адбываецца гэтае змаганьне (ужо – за магілы). Ідзе барацьба за жывых і за мёртвых, і за „мёртвых”, хоць і жывых. Гэта ёсьць барацьба за нацыянальнае існаваньне.

Кніга складаецца з дзьвух частак. У першай – адмысловыя фатаграфіі, артыкулы і матэр’ялы аўтараў. У другой (дадатак) зьмешчаны факсімільныя адбіткі з археалагічнай справаздачы, з кніг і артыкулаў Зянона Пазьняка, інтэрв’ю Сяргея Навумчыка, Аляксандра Лукашука. Тут (у дадатку) нібы своеасаблівае перавыданьне таго, што было надрукавана раней.

*16 сьнежня 2011 г.*

***Зянон Пазьняк***